# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

**Дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“**

**№ 4** **6 сьнежня 1928 г.** **№ 4**


## З Ь М Е С Т



## Усім конкурсным камісіям пры АВК, камісіям садзейнічаньня правядзеньня конкурса пры райвыканкомах і гарсаветах, усім сельскім, местачковым саветам.

У выкананьне пастаноў III-й Сэсіі ЦВК БССР ад 23 верасьня і Прэзыдыуму ЦВК ад 3-га лістапада г. г. будзе праводзіцца Ўсебеларускі Конкурс на лепшую сэкцыю гарадзкога савету і лепшы сельскі і местачковы саветы з іх камісіямі, згодна прыложанага пры гэтым пляну Цэнтральнай конкурснай камісіі. Мэтамі конкурсу ставяцца:

а) выяўленьне лепшай пастаноўкі масавай і практычнай работы ў сэкцыях гарадзкіх саветаў, сельскіх і местачковых саветаў і іх камісій для пераносу лепшых прыкладаў ле на ўсе іншыя саветы, сэкцыі і камісіі;

б) выяўленьне саветаў, сэкцый і камісій у якіх праца пастаўлена наогул слаба, альбо мае грубыя недахопы, вывучаньне прычын, перашкаджаючых палепшаньню работы і вызначэньне мерапрыёмстваў да іх зьнішчэньня;

в) прыцягненьне шырокае ўвагі працоўных мас гораду і вёскі да работы саветаў, сэкцый і камісій, чым яшчэ больш палепшыць працу саветаў як ворганаў дыктатуры пралетарыяту.

У мэтах забясьпечаньня правільнай арганізацыйна-падрыхтоўчай работы на мясцох і наданьня конкурсу характару найбольшай масавасьці, прапануецца камісіям конкурсным і камісіям садзейнічаньня і саветам ажыцьцявіць:

а) правесьці дакладнае інструктаваньне ніжэйшых камісій і саветаў вышэйстаячымі камісіямі, шляхам правядзеньня нарад з пастаноўкаю інструкцыйных дакладаў аб парадку і мэтадах арганізацыі і правядзеньня конкурса і абмеркаваньня пляна гэтай работы;

б) разгарнуць шырокую растлумачальную работу аб значэньні конкурса, мэтадах яго правядзеньня і неабходнасьці практычнага ўдзелу саміх мас у конкурсе па выяўленьню лепшых саветаў, сэкцый і камісій.

в) прапягнуць да ўдзелу ў рабоце аб правядзеньні конкурса акруговыя, гарадзкія, раённыя і сельскія ўстановы і аддзелы іх у сэнсе выяўленьня імі становучых і адмоўных бакоў адпаведных галін работы саветаў, сэкцый і камісій, для скарыстаньня гэтых матар'ялаў пры правядзеньні конкурса;

г) згуртаваць усіх рабкораў і селькораў на мясцох навакол справы правядзеньня конкурсу на лепшы савет, сэкцыю і камісію і забясьпечыць рабселькорам найлепшыя ўмовы ў зборы матар'ялаў, характарызуючых работу саветаў, сэкцый і камісій;

д) найбольш поўна скарыстаць мясцовы друк (акруговыя, насьценныя газэты) і цэнтральныя беларускія газэты: «Савецкая Беларусь», «Беларуская Вёска», „Рабочы“ і нацыянальныя газэты для зьмяшчэньня конкурсных матар'ялаў, характарызуючых работу саветаў, сэкцый і камісій;

е) прыцягнуць да ўдзелу ў конкурсе шырокія рабочыя масы праз прафсаюзныя арганізацыі, шляхам пастаноўкі дакладаў на сходах саюзаў, на цэхавых сходах на прадпрыёмствах аб значэньні конкурса, аб парадку яго правядзеньня і аб ўдзеле рабочых мас у абглядзе працы сэкцый гарсавета, праз скліканьне нарад членаў савета па саюзах і выяўленьня праз іх удзел прафарганізацый у рабоце сэкцый гарсавета;

ж) арганізаваць шырокае абмеркаваньне пляну конкурсу на парадах гарадзкога актыву (членаў бюро сэкцый, на пасяджэньнях сэкцый, на пленумах гарсаветаў з удзелам актыву партыйных, камсамольскіх, прафэсыянальных арганізацый, рабкораў, членаў рэдкалегій. акруговых і насьценных газэт) і выяўленьня характарыстыкі работы сэкцый гарсавету. Праз рабочыя клюбы правесьці даклады, гутаркі, адбіваючыя работу сэкцый гарсавета;

з) наладзіць практычны ўдзел у правядзеньні конкурса на лепшы савет, сэкцыю, камісію прафсаюзных арганізацый, маючых значную масу членаў у сельскіх мясцовасьцях, як: саюз працаўнікоў Зямлі і Лесу, Працасьветы, Медсанпрацы і саюз савецкіх і гандлёвых служачых, арганізацыі Чырвонае арміі і г. д., дамагаючыся дапамогі іх правядзеньня конкурсу ў форме асьвятленьня ў друку і перад масамі ўдзелу ў практычнай рабоце

саветаў, сэкцый і камісій гэтых арганізацый і аказаньня дапамогі сялянам праз складаньне конкурсных заметак і пісем для друку;

і) праз агульныя сходы ўцягнуць шырокія масы насельніцтва вёскі і мястэчка да ўдзелу ў конкурсе праз абгаварэньне на сходах работы савета і камісій, праз прыцягненьне сялян да пасылкі ў газэты заметак і карэспандэнцый аб рабоце савета і камісій, праз абгаварэньне карэспандэнцый, характарызуючых работу савета і камісіі, зьмешчаных у газэтах;

к) найбольш шырока ўцягнуць у правядзеньне конкурса батрацтва і беднату, для выяўленьня работы савета ў галіне выкананьня законаў аб дапамозе беднаце, прадстаўленьні і скарыстаньня розных ільгот і наогул захаваньня інтарэсаў беднаты ў практычнай рабоце савета і камісіі;

л) праз агульныя сходы жанчын, жаночыя дэлегацкія сходы нарады жанчын—членаў савета, дэлегатак-практыкантак, жанчын—членаў камісій абмеркаваць задачы конкурса і формы ўдзелу жанчын у конкурсе з мэтаю выяўленьня і праверкі выкананьня дырэктыў па ўцягненьню жанчын у практычную работу савета, камісій, сэкцый наогул і ўдзелу жанчын—членаў савета і дзелегатак-практыкантак у практычнай рабоце савету, камісіі, сэкцыі;

м) забясьпечыць шырокі ўдзел у правядзеньні конкурса іншых грамадзкіх арганізацый: КСМ, камітэту сялянскай узаемадапамогі, кааператыўных арганізацый, сельска-гаспадарчых калектыўных аб'яднаньняў і інш., канцэнтруючы ўвагу іх на пытаньнях, адбіваючых узаемную ўвязку работы савета і гэтых арганізацый, адбіваючых дапамогу з боку савета арганізацыям і наадварот, у практычнай рабоце;

н) скарыстаць пленумы выканкомаў і саветаў і ўсялякія нарады пры іх з мэтаю пастаноўкі дакладаў аб правядзеньні конкурса ў вызначэньні форм удзелу іх у гэтай рабоце.

Конкурсным камісіям праз заслухоўваньне дакладаў ніжэйшых камісій, садзейнічаньня і выезды на месцы, перыядычна рабіць праверку арганізацыі і прахаджэньня конкурсу на мясцох і неадкладна выпраўляць дапушчаныя памылкі, халатнасьць, фармалізм і замкнутасьць у гэтай рабоце.

Арганізацыйна-падрыхтоўчую работу і правядзеньне конкурса конкурсным камісіям безадкладна распачаць зараз-жа, увязваючы гэту работу са справаздачна-перавыбарчай кампаніяй саветаў. Маючы на ўвазе, што на гэтых сходах больш поўна будзе выяўлена думка грамадзкасьці і працоўнага насельніцтва аб працы саветаў, х сэкцый і камісій.

Акруговым конкурсным камісіям рэгулярна дасылаць у цэнтральную конкурсную камісію, пры прэзыдыуме ЦВК, копіі ўсіх конкурсных карэспандэнцый, а па сканчэньні кампаніі ў тыднёвы тэрмін прадставіць агульную сводку аб выніках правядзеньня конкурсу.

Старшыня Цэнтральнай Конкурснай
Камісіі ЦВК БССР **А. Хацкевіч.**

# Плян-інструкцыя правядзеньня Усебеларускага конкурсу.

1. Конкурс праводзіцца:

а) на лепшую сэкцыю гарадзкога савету,

б) на лепшы сельскі савет і камісію яго,

в) на лепшы местачковы савет і камісіі яго.

2. Конкурс пачынаецца з 1-XII—1928 г. і заканчваецца 1-IY—1929 г.

3. Арганізуюць і праводзяць конкурс конкурсныя камісіі пры ЦВК БССР і АВК і камісіі садзейнічаньня пры РВК і гарсаветах пры дапамозе сельскіх і местачковых саветаў.

4. Асяродкам увагі пры правядзеньні конкурса ставіцца: найбольш шырокі ўдзел у конкурсе мас, з аднаго боку і найбольш усебакова вычэрпваючае выяўленьне станоўчых і адмоўных бакоў у рабоце савету, сэкцыі, камісіі, вызначэньне прычын, перашкаджаючых працы і намячэньне мерапрыёмстваў, спрыяючых зьнішчэньню недахопаў і палепшаньню далейшай работы.

5. Конкурсны этап падзяляецца на дзьве часткі:

а) конкурс унутры-акруговы,

б) конкурс усебеларускі.

Конкурс на мясцох праводзіцца праз акруговыя, а там дзе няма праз насьценныя газэты. Выяўленыя і прэміраваныя саветы, сэкцыі і камісіі па ўнутры-акруговаму конкурсу пераносяцца на конкурс Ўсебеларускі. Арыентыровачна лічыцца, што конкурсы унутры-акруговыя павінны працягвацца да 1-га лютага 1929 году, пасьля чаго разгортваецца Ўсебеларускі конкурс.

6. Карэспандэнцыі ўсебеларускага конкурсу друкуюцца ў «Савецкай Беларусі», „Беларускай Вёсцы"—аб сельскіх і местачковых саветах і іх камісіях, а ў газэце «Рабочы»—аб сэкцыях гарсаветаў.

**Увага 1.** Конкурсныя карэспандэнцыі прымаюцца для друку і цэнтральнымі і нацыянальнымі газэтамі.

**Увага 2.** Дапускаецца дасылка конкурсных карэспандэнцый на Ўсебеларускі конкурс і непасрэдна з месц.

7. Выяўленыя па конкурсу лепшыя саветы, сэкцыі, камісіі і карэспандэнцыі прэміруюцца, конкурснымі камісіямі за лік фондаў спэцыяльна выдзяляемых для гэтага ў цэнтры—ЦВК, а на мясцох—АВК. Прэміі выдаюцца грашовыя і рэчавыя. Памер прэмій устанаўляецца загадзя конкурснымі камісіямі і абвяшчаюцца праз друк.

8. Правядзеньне конкурсу ўвязваецца з праходзячай падрыхтоўчай перавыбарчай кампаніяй саветаў у сэнсе скарыстаньня агульных сходаў сялян, саюзаў, рабочых сходаў, сходаў беднаты, жанчын і іншых для абгаварэньня мерапрыёмстваў конкурсу і ўдзелу ў апошнім мас.

9. Мэтадамі выяўленьня работы саветаў, сэкцый, камісій для складаньня карэспандэнцый практыкуецца: заслухоўваньне дакладаў на сходах, пленумах, нарадах, абсьледваньне пастаноўкі работы спэцыяльнымі камісіямі, альбо інструктарамі выканкомаў і аддзелаў іх, скарыстаньня пісьмовых матэр'ялаў: пратаколаў пасяджэньняў саветаў, сэкцый, камісій, пляноў работы іх, пісьмовых справаздач і інш.

10. Апісаньне пастаноўкі работы саветаў, сэкцый, камісій для карэспандэнцыі праводзіцца: рабкорамі, селькорамі, рэдкалегіямі насьценгазэт, спэцыяльнымі камісіямі, саветамі, членамі конкурсных камісій, райвыканкомамі, грамадзкімі арганізацыямі, рабочымі і сялянамі, настаўнікамі і інш.

11. У конкурсных карэспандэнцыях найбольш поўна і вычэрпваюча асьвятляюцца наступныя моманты:

а) арганізацыйна-масавая работа: сацыяльны склад савету, роль у складзе савету беднаты, батрацтва, жанчын, аўтарытэт савету сярод мас;

б) плянаваньне у рабоце пленума, прэзыдыума савета.

Як адбіты ў плянах работы наказы выбаршчыкаў, дырэктывы кіруючых вышэйшых органаў:

# Да перавыбараў саветаў.

*(З прамовы тав. Хацкевіча на пашыраным Пленуме Цэнтральнай Выбарчай Камісіі).*

III-ці Пленум Цэнтральнай Выбарчай Камісіі фактычна зьявіўся праверкай усёй той папярэдняй падрыхтоўчай кампаніі да перавыбараў саветаў, якую мы вялі да гэтага часу.

Як даклады з месц, так і спрэчкі гавораць за тое, што ў гэтым годзе работа па перавыбарах саветаў распачата сваечасова.

З боку Цэнтральнай Выбарчай Камісіі, з боку акруговых і раённых камісій дырэктывы былі дадзены сваечасова і досыць поўныя, забясьпечваючыя магчымасьць праводзіць падрыхтоўчую работу да перавыбараў саветаў на мясцох.

Як-жа выпаўнілі і выпаўняюць месцы гэтыя дырэктывы на практыцы?

У асноўным яны, безумоўна, ажыцьцяўляюцца і праведзена ўжо значная падрыхтоўчая работа да перавыбараў. Аднак, зробленая праз інструктарскі апарат і выезды паасобных таварышоў Цэнтральнай і часткова акруговымі выбарчымі камісіямі праверка ў некаторых раёнах, а таксама пісьмовыя весткі, якія мы атрымоўваем з месц і праз друк, паказваюць, што частка саветаў і нават райвыканкомаў з выпаўненьнем дырэктыў, якія былі дадзены Цэнтральнай і акруговымі выбарчымі камісіямі адстае. З другога боку ў праведзенай, ужо на мясцох рабоце маецца шэраг значных памылак, якія неабходна безадкладна выправіць. Напрыклад, у «Зьвязьдзе» было паведамленьне, што пры складаньні выбарчай камісіі ў польскім Мархлеўскім нацыянальным сельсавеце, Аршанскай акругі, ня ўведзен прадстаўнік ад польскай нацыянальнасьці. Гэта не тэхнічны ляпсус, а палітычны. Нельга лічыць толькі тэхнічнымі і памылкі ў галіне клясавага падбору складу выбарчых камісій, выпадкі няўважлівага складаньня сьпісаў пазбаўленых выбарчага права і г. д.

Гэта тое, што выяўлена праверкай.

Зразумела, што праведзеная праверка выкананьня дырэктыў на мясцох яшчэ недастаткова поўная.

Таму трэба, каб з боку цэнтральных, акруговых і раённых органаў і арганізацый выехалі сотні работнікаў непасрэдна ў вёску для праверкі таго, як праламляюцца дырэктывы, і для дапамогі ажыцьцяўленьня іх. Такая задача павінна быць вырашана пасьля Пленуму Цэнтральнай Выбарчай Камісіі.

Калі паставіць пытаньне, якія цяжкасьці сустракаюцца пры правядзеньні падрыхтоўкі да перавыбараў саветаў, то перш за ўсё трэба адзначыць наяўнасьць небясьпекі слабага ўдзелу грамадзкіх нашых арганізацый у бягучай кампаніі перавыбараў саветаў. Як вядома, у мінулую перавыбарчую кампанію ўсе грамадзкія арганізацыі абмяжоўвалі ўдзел свой у перавыбарах саветаў тым, што ўводзілі ў адпаведныя выбарчыя камісіі сваіх прадстаўнікоў. У гэтым-жа годзе задача пастаўлена так, што грамадзкія арганізацыі ня толькі не павінны абмяжоўвацца ўвядзеньнем сваіх прадстаўнікоў у адпаведныя выбарчыя камісіі, але павінны праводзіць унутры сябе шырокую арганізацыйную работу па перавыбарах саветаў і ўсямерна дапамагаць у рабоце па перавыбарах сярод працоўных мас, не ахопленых гэтымі арганізацыямі.

Трэба адзначыць, што да гэтага часу грамадзкія арганізацыі спазьняюцца выданьнем адпаведных дырэктыў па сваёй лініі, а акруговыя і раённыя камісіі яшчэ не праверылі як у парыфэрыі грамадзкіх арганізацый праламляюцца і выконваюцца дырэктывы, дадзеныя з боку цэнтральных грамадзкіх устаноў.

Маецца яшчэ небясьпека ў тым, што паміж савецкіх і грамадзкіх арганізацый няма шчыльнай сувязі і па цэламу шэрагу месц прафсаюзы і іншыя грамадзкія арганізацыі яшчэ недастаткова арганічна зьвязаліся з выбарчымі камісіямі і недастаткова ўдзельнічаюць у рабоце па перавыбарах саветаў. Гэты вывад падкрэсьліваецца выступленьнямі прадстаўнікоў грамадзкіх арганізацый, характарызуючымі і паказваючымі адсутнасьць канкрэтных мерапрыемстваў у іх рабоце па перавыбарах саветаў.

Такім чынам, цэламу шэрагу грамадзкіх арганізацый трэба будзе працаваць шмат над тым, каб забясьпечыць 100% удзел у перавыбарчай кампаніі усяго складу арганізацый.

Поруч з гэтым трэба і Цэнтральнай і акруговым выбарчым камісіям заразжа дасканала праверыць, што зроблена па лініі паасобных грамадзкіх арганізацый, у прыватнасьці прафсаюзных, па ўцягненьню сваіх сяброў да актыўнага ўдзелу ў перавыбарах саветаў. Праходзячая ў сучасны пэрыяд калдагаворная кампанія па саюзах мае вялізарнае палітычнае значэньне, аднак, гэта ня здымае з прафэсыянальных саюзаў абавязку актыўнага іх удзелу ў перавыбарах саветаў.

Трэба дабіцца, каб усе грамадзянскія арганізацыі шчыльна аб'ядналіся ў рабоце па перавыбарах, мелі адзіны плян правядзеньня гэтае кампаніі, каб яны пад кіраўніцтвам партыйных органаў практычна ўдзельнічалі ў перавыбарах саветаў.

Трэба сказаць, што да гэтага часу кулак і іншыя варожыя групы ў нашай падрыхтоўчай працы толькі пачулі нашу рашучую палітыку наступу на кулакоў, але мы іх яшчэ моцна і глыбока не закранулі, што зробім на справаздачных і выбарчых сходах у далейшым. Ня гледзячы на гэта нашы ворагі ўжо даюць сябе адчуваць. Таму нам трэба зараз забясьпечыць поўную магчымасьць працы нашых актывістаў вёскі ў барацьбе іх супроць кулацтва, бо ў некаторых мясцох партыйцам, камсамольцам, прадстаўнікам беднаты і актывістам наогул ужо пагражае небясьпека праз забойствы, падпал і іншыя злачынствы, якія робяцца кулацтвам і якія, на жаль, застаюцца ў значнай меры не раскрытымі, беспакаранымі.

Трэба мець на ўвазе, што гэтыя выпадкі тэрору з боку кулацтва пры перавыбарах могуць пашырацца і што гэта можа рабіць уплыў на актыўнасьць бедняка, батрака і актывіста-серадняка. Таму неабходна заклікаць нашу Пракуратуру і трэба будзе па цэламу шэрагу выпадкаў агрэсыўнага дзеяньня з боку кулацтва (забойстваў, падпалаў і г. д.) у адказ на гэта ўжыць такія меры пакараньня, каб яны чутны былі па ўсіх глухіх вёсках, а па другое,—мабыць трэба падумаць і над такімі мерапрыемствамі, каб верхавіна кулацтва на вёсцы ведала, што зьнішчаная падпалам гаспадарка бедняка будзе аднаўляцца за кошт кулацкіх гаспадарак.

У інструкцыі па перавыбарах саветаў спэцыяльна прадугледжана ў арт. 83 магчымасьць пазбаўленьня выбарчых праваў тэй альбо іншай асобы, адносна якой на мясцох упэўнены,

# Комсамол і надыходзячыя перавыбары саветаў.

Задачу працы ў саветах Цэнтральны Камітэт Комсамолу Беларусі ставіў перад организацыямі ўвесь час як галоўную у грамадзка-гаспадарчай працы ў вёсцы. Так разумела яе і арганізацыя, і ячэйкі Комсамолу. У выніку мы мелі паступовае палепшаньне якасьці нашай працы ў саветах, а побач з гэтым і на аснове гэтага ўзрост аўтарытэту комсамолу ў масах працоўнага сялянства і ўзрост колькасьці комсамольцаў, абіраемых у саветы. Апошнія перавыбары нам далі 10,4 проц. комсамольцаў да усяго ліку сяброў у сельсаветах. Мы расцэньваем гэты факт, як вынік карыснай для працоўнага сялянства і рабочых, дзелавой працы комсамолу ў саветах.

Зараз перад намі ўжо ва ўвесь свой рост паўстае кампанія будучых перавыбараў саветаў. Надыходзячая кампанія перавыбараў Саветаў будзе для нас, комсамолу, чарговай праверкай таго, як мы працуем у Саветах, як удзельнічаем у будаўніцтве грамадзка-гаспадарчага жыцьця вёскі, гораду, у палепшаньні дабрабыту вёскі, разгортваньні культурнае працы, у працы партыі з беднатой.

Комсамол працу па падрыхтоўцы да перавыбарчай кампаніі пачаў своечасова: былі дадзены дырэктывы, выдана памятка комсамольцу аб удзеле ў перавыбарах саветаў, пастаноўка гэтага пытаньня на пленумах АК і райканфэрэнцыях ЛКСМБ. Але ўсё-ж неабходна адзначыць, што ў ячэйках, у некаторых раёнах яшчэ гэтая праца недастаткова разгорнута, а дзе-ні-дзе яе толькі зараз распачынаюць. Гэта прымушае нас лішні раз напамінаць аб важнасьці падрыхтоўчай працы да перавыбарах.

Політыка партыі ў адносінах да працы Саветаў накіравана на ўсямернае ажыўленьне іх дзейнасьці на грунце шырокага разгортваньня пролетарскай самакрытыкі працы Саветау і пролетарскай дэмократыі і ўцягненьне на грунце гэтага шырокіх мас працоўных у будаўніцтва савецкае дзяржавы.

У сувязку з гэтым кампанія перавыбараў Саветаў зьяўляецца шырокай арэнай клясавай барацьбы за ўплыў на саветы з боку нашых ворагаў-кулака, нэпмана.

Разьвіцьцё нашае краіны за апошнія гады праходзіць ва ўмовах усё абвастраючайся клясавай барацьбы. Аб гэтым сьведчылі праведзеныя ў мінулым годзе гаспадарчыя кампаніі. Гэтыя кампаніі паказалі ўзрост актыўнасьці дробна-буржуазных элемэнтаў вёскі. Пастановы XV зьезду УсеКП аб фарсіраваным наступленьні на кулака, якія выявіўся практычна ў больш прогрэсыўнай падатковай політыцы, у шэрагу мерапрыемстваў савецкае улады, абмяжоўваючых разьвіцьцё капіталістычных элемэнтаў вёскі і садзейнічаючых разьвіцьцю социялістычнага сектара гаспадаркі (калгасы, саўгасы і г. д.). аслабілі кулака, пасілілі яго актыўнасьць.

Кулак разумее ўсю важнасьць кампаніі перавыбараў саветаў і таксама рыхтуецца да яе, разгортвае належную працу і сярод моладзі, імкнецца натравіць несьвядомую частку сялян на комсамольцаў саветчыкаў, падарваць іх працу, скомпромэнтаваць іх у вачах сялянства.

Загэтым першая й галоўная наша задача даць адпор кулаку, ізаляваць яго політычна, зараз-жа разгарнуць належную працу па арганізацыі бедняты й батрацтва.

Неабходна забясьпечыць, дзе гэта яшчэ ня зроблена, наш удзел у выбарчых камісіях, выдзеліць туды батракоў і беднякоў комсамольцаў, дабівацца таго, каб гэтыя камісіі былі перадавой позіцыяй у барацьбе з кулацкай актыўнасьцю. Актыўна ўдзельнічая ў складаньні сьпісаў пазбаўленых праў голасу, у праверцы гэтых сьпісаў, моцна стаяць на клясавых позыцыях, прыняць усе меры да таго, каб ні адзін кулак ня мог атрымаць выбарчую позву. Неабходна кожнаму комсамольцу памятаваць, што перавыбары саветаў будуць для комсамому праверкай таго, наколькі цьвёрда нашы ячэйкі і асобныя комсамольцы разумеюць і ажыцьцяўляюць клясавую пролетарскую лінію нашай партыі; наколькі цьвёрда і своечасова дамо мы адпор варожым элемэнтам, наколькі мы дапаможам партыі ў згуртаваньні вакол саветаў мас вясковай бедняты і серадняцкага сялянства.

Асабліва сур'ёзную ўвагу неабходна удзяліць справаздачнай кампаніі саветаў Пры справаздачах неабходна заострыць увагу на тым, як сельсавет праводзіў клясавую лінію, як ён абараняў інтарэсы бедняты, як дапамагаў ёй палепшыць гаспадарку. Гэтую кампанію неабходна скарыстаць для ажыўленьня працы комсамольцаў сельсаветчыкаў. Хай кожны член савету комсамолец раскажа аб сваёй працы на комсамольскім сходзе, каб сходам абгаварыць яго працу, указаць памылкі, недахваты, памагчы выправіць іх і даць указаньні як працаваць у далейшым. Абгаварыць прапановы да наказаў саветам. Гэтая кампанія павінна быць і праверкай, з пункту гледжаньня правядзеньня клясавай партыйнай лініі, і з пункту гледжаньня працаздольнасьці і нашых комсамольцаў саветчыкаў, каб адклікаць неапраўдаўшых сябе, каб у новы склад саветаў, на грунце гэтае праверкі, высунуць тых комсамольцаў, якія праводзяць цьвёрда клясавую лінію ў сваёй працы, якія правераны на практычнай працы. Высоўваць неабходна галоўным чынам беднякоў і батракоў.

Да гэтага часу ў саветах мала дзяўчат комсамолак і маладых беспартыйных дзяўчат. Неабходна, каб новыя выбары далі ў саветы большы кадр сельсаветчыц з маладых батрачак, бяднячак і серадначак.

У рабоце саветаў—ажыўленьне працы камісій і секцый ёсьць адна з галоўнейшых задач. Пастановай Прэзыдыуму ЦВК БССР з 1-га сьнежня да красавіка наступнага году будзе праводзіцца конкурс на лепшую сэкцыю гарсавету, лепшы Сс-авет і яго камісіі. Гэты конкурс мае вялічэзнае значэньне, як праверка з боку шырокіх мас працоўных працы секцый і камісій Саветаў. Вынікам гэтага конкурсу павінна быць палепшаньне працы, пазбаўленьне бюрократызму, нядбайнасьці, безгаспадарчасьці, п'янства, хабарніцтва. Комсамол павінен прыняць самы актыўны ўдзел у правядзеньні конкурсу: вылучаць людзей у камісіі пры ВК і С-с, абгаварваць перад апісаньнем працу савету на сходзе і г. д.

У правядзеньні працы па перавыбарам саветаў значную дапамогу павінны аказаць вясковым ячэйкам гарадзкія, праз шэфпрацу. У нас шэфпраца аслабла. Неабходна дабіцца яе ажыўленьня, рабочым гарадзкім ячэйкам неабходна абгаварыць у сябе пытаньне, сумесна з прадстаўніком падшэфных, як яны змогуць дапамагчы вясковым комсамольцам у перавыбарах саветаў.

Комсамол павінен арганізавана выйсьці на перавыбары саветаў і прыцягнуць да гэтае кампаніі арганізаваныя шырокія масы батрацкай, бядняцкай і серадняцкай моладзі. Для гэтага неабходна правесьці сходы моладзі, скарыстаць дні сялянскай моладзі, нарады беспартыйнага маладзежнага активу, сходы і конфэрэнцыі бядняцкай і батрацкай моладзі.

Усёй масай, на аснове вызначаных партыяй задач будзем праводзіць перавыбары Саветаў.

**П. Галавач.**

Зараз, як ніколі, кожны дэмабілізаваны чырвонаармеец павінен зразумець, што сьпячка не павінна мець месца, што перад краінай, якая ідзе хутка наперад па шляху сацыялістычнага будаўніцтва, стаіць цэлы шэраг цяжкасьцяй як міжнароднага, гэтак і ўнутранага парадку. Каб перамагчы гэтыя цяжкасьці, каб забясьпечыць рух наперад, неабходна аб'яднацца вакол камуністычнае партыі, прымаць дзейны ўдзел у практычным ажыцьцяўленьні яе палітыкі па індустрыялізацыі краіны, па сацыялістычнай перабудове сяла, па ўздыму гаспадарак бедняты і серадпякоў, па ажыўленьню работы саветаў і забясьпечаньні пралетарскае клясавае лініі ў іх рабоце, па ўмацаваньню пазіцый бедняты ў саветах, узмацаваньню саюзу бедняты і серадняцкіх мас сялянства.

Веды, атрыманыя ў Чырвонай арміі, дэмабілізаваны чырвонаармеец павінен цалкам выкарыстаць на практычнай рабоце ў саветах, кааперацыі і г. д., і тым самым выпаўніць тыя наказы, якія даваліся звольненым астаўшыміся чырвонаармейцамі і прымаліся адыходзячымі. Можна з пэўнасьцю сказаць, што дэмабілізаваны чырвонаармеец, бядняк і серадняк будуць надзейнаю апораю нашай партыі як у надыходзячых перавыбарах, гэтак і ў самой рабоце саветаў.

**Крохмаль.**

# А рабоце нацыянальных саветаў БССР.

Кастрычнікавая рэвалюцыя дала мажлівасьць кожнай нацыянальнасьці былой царскай Расеі свабодна разьвівацца як гаспадарча, так і культурна. Кожная нацыянальнасьць, дзякуючы дыктатуры пралетарыяту на аснове прынцыпу кампартыі аб самавызначэньні, атрымала магчымасьць самастойна ўтвараць сваю дзяржаўнасьць і карыстацца сваёй роднай мовай ва ўсіх дзяржаўных і культурных установах.

Савецкая ўлада прымае ўсе меры, каб лепш абслугоўваць гаспадарча і культурна кожную групу нацыянальных меншасьцяў, дзе-б яны ні знаходзіліся. З гэтай мэтай арганізуюцца нацыянальныя суды, школы, асобныя нацыянальныя акругі, раёны і сельсаветы. Ва ўмовах БССР існуюць сельскія і местачковыя нацыянальныя саветы. Апошнія ў БССР пачалі арганізоўвацца ў канцы 1924 году, і з пачатку было арганізавана 7 яўрэйскіх і 2 латыскіх нацсаветы. У 1925 годзе сетка нацсаветаў пашырылася да 11 яўрэйскіх, 4 латыскіх, 2 польскіх, 1 нямецкага і 1 расейскага. У наступным 1926-27 годзе сетка нацсаветаў яшчэ больш павялічылася, і зараз маецца 66 нацсаветаў, з іх: яўрэйскіх 23, польскіх 19, латыскіх 4, расейскіх 16, намецкіх 2 і украінскіх 2. Усяго гэтай колькасьцю нацсаветаў абслугоўвалася 62.495 чалавек. Нацыянальныя саветы арганізоўваліся па нацыянальна-тэрытарыяльнаму прынцыпу ў тых мясцовасьцях, дзе адпаведная нацыянальнасьць складала большасьць усяго насельніцтва. Так, напрыклад, на тэрыторыі яўрэйскіх нацсаветаў насельніцтва яўрэйскай нацыянальнасьці ў сярэднім складае 76,1 проц., на тэрыторыі польскіх—82,1 проц., расейскіх—98,4 проц., латыскіх—87,4 проц., нямецкіх—84,4 проц. У нацсаветах поўнасьцю забясьпечваецца абслугоўваньне на роднай мове і працоўных іншых нацыянальнасьцяў як шляхам абраньня ў дадзены нацсавет дэпутатаў ад гэтых нацыянальнасьцяў, так і адпаведным прыстасаваньнем дзелаводзтва нацсаветаў.

Колькасьць членаў па нацыянальнасьці (у працэнтах) у нацсаветах:

| | Яўрэяў % % | Беларусаў % % | Палякаў % % | Латышоў % % | Немцаў % % | Расейцаў % % | Іншых % % |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Яўрэйскіх савгас. | 75,9 | 17,1 | 1,4 | 1,4 | — | 2,8 | 1,4 |
| Польскіх » | — | 14,2 | 84,3 | — | — | 1,5 | — |
| Латыскіх » | — | 12,5 | — | 87,5 | — | — | — |
| Расейскіх » | — | 21,4 | — | — | — | 78,6 | — |
| Нямецкіх » | — | 10,0 | — | -- | 90,0 | — | — |

Выбары 1927 году паказваюць прыблізна такія-ж самыя лічбы. Такім чынам, з гэтых лічбаў відаць, што ўсім нацыянальнасьцям БССР дадзена поўная магчымасьць прымаць актыўны ўдзел у савецкім будаўніцтве.

Праца нацсаветаў БССР за кароткі перыяд свайго існаваньня не праходзіла ў спэцыфічных умовах; досыць вялікага вопыту яны яшчэ не маюць, а таму зараз вельмі цяжка даць поўную характарыстыку і ацэнку іх працы. Гэта можна будзе зрабіць па матэр'ялах абсьледваньня нацсаветаў, якое цяпер праводзіцца Нацыянальнай Камісіяй ЦВК БССР. Аднак, тыя матэр'ялы, якія маюцца ў сучасны момант у распараджэньні Нацыянальнай Камісіі, сьведчаць аб тым, што нацсаветы як з палітычнага, так і гаспадарчага боку сябе апраўдалі. Арганізацыя нацыянальных саветаў станоўча адбілася на падняцьці гаспадарчага і культурнага ўзроўню нацменшасьцяў. Нацсаветы значна садзейнічалі арганізацыі клясавага блёку паміж серадняком і бедняком супроць кулакоў. Калі ў першыя часы кулацкія і варожыя савецкай уладзе элемэнты пад лёзунгам нацыянальнага адзінства прыцягвалі частку серадпякоў і бедпату і батрацтва на свой бок, дык у сучасны момант, дзякуючы арганізацыі нацсаветаў, яны гэты ўплыў у значнай меры страцілі. Навакол нацсаветаў арганізаваўся актыў з бедпаты і серадпякоў, якія аказваюць саветам значную дапамогу ў іх рабоце. Але як гледзячы на дасягненьні, у рабоце нацсаветаў ёсьць шэраг недахопаў. Асабліва мы павінны зьвярнуць увагу ў надыходзячую перавыбарную кампанію на нацыянальныя саветы. Варожыя нам сілы, асабліва ў нацыянальных саветах, стараюцца скарыстаць нашыя агульныя цяжкасьці. З шэрагу матэр'ялаў відаць, што кулацкія і клерыкальныя элемэнты праяўляюць вялікую актыўнасьць, каб зрабіць свой уплыў на батракоў і бедпату, ужываюць для гэтага розныя сродкі і спосабы. Адкрытаму наступленьню варожых нам сіл мы павінны супроцьставіць сплочаныя шэрагі бедпаты, батрацтва і серадпякоў. Ёсьць выпадкі, калі дзейнасьць кулакоў і клерыкалаў разьбіваліся, дзякуючы актыўнасьці пралетарскіх слаёў нацсаветаў, і кулацкім элемэнтам не ўдавалася праводзіць свае мерапрыемствы.

У надыходзячую выбарчую кампанію асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на большае ўцягненьне беднаты і батракоў у саветы. Перавыбары мінулага году паказваюць, што беднаты і батракоў у саветах было недастаткова, што відаць з наступных вестак:

было с. г. рабочых-батракоў у яўрэйскіх саветах —
» » » » польскіх » 0,6 проц.
» » » » расейскіх » —
» » » » латыскіх » —
» » » » нямецкіх » 10 проц.

У яўрэйскіх нацсаветах значную колькасьць мелі прадстаўнікі іншых сацыяльных катэгорый, як, напрыклад, саматужнікаў было 30,9 проц., рабочых—22,1 проц., служачых—16,2 проц., настаўнікаў—5,9 проц. Калі мы ў яўрэйскіх нацсаветах маем значную праслойку рабочых (22,1 проц.), дык у іншых нацсаветах гэтай праслойкі зусім няма.

У справе ўцягненьня працоўных жанчын у савецкае будаўніцтва таксама зроблена мала.

Павінна быць зьвернута ўвага на ўзмацненьне гаспадарчай дзейнасьці нацсаветаў. Гэта можа быць дасягнута шляхам заснаваньня ў нацсаветах самастойных бюджэтаў. Апошнія павінны складацца непасрэдна самымі нацсаветамі, з удзелам працоўных, а ня так, як гэта маецца ў некаторых нацсаветах цяпер, калі бюджэты складаюцца РВК нават бяз ведама нацсаветаў, і апошні рэалізуе бюджэт толькі шляхам атрыманьня асыгноўкі ад РВК (напрыклад, Анзельмеўскі нямецкі нацсавет, Мазырскай акр.).

Матар'ялы дэмаграфічнага перапісу 1926 году паказваюць, што існуючымі ў сучасны момант 66 нацсаветамі ў сельскіх мясцовасьцях ахоплена ўсяго насельніцтва данае нацыянальнасьці:

яўрэйскімі . . 6,2 проц.
польскімі . . 20 „
расейскімі . . 14,9 „
латыскімі . . 14,7 „
украінскімі . . 7,2 „
нямецкімі . . 44 „

Такі малы процант ахопу нацсаветамі сваёй нацыянальнасьці тлумачыцца тым, што толькі нязначная частка нацменшасьцяў жыве кампактнымі групамі, а астатняя раскіданы сярод асноўнай нацыянальнасьці—беларусаў. Аднак, у надыходзячую перавыбарчую кампанію неабходна ўсямерна забясьпечыць абслугоўваньне кожнай нацыянальнасьці на роднай мове. Пры правядзеньні справаздач саветаў неабходна ўтварыць асобныя нацыянальныя справаздачныя вучасткі. Таксама неабходна зьвярнуць увагу і выявіць магчымасьці арганізоўваць нацыянальныя вучасткі па выбарах у саветах.

Правядзеньне гэтага мерапрыемства дасьць магчымасьць больш уцягнуць працоўных нацыянальных меншасьцяў і ў савецкае будаўніцтва наогул.

Савецкімі органамі на мясцох павінны быць грунтоўна правераны вопыт працы існуючых нацсаветаў, з мэтай зьвішчэньня недахопаў, а таксама павінны быць выяўлены ўсе магчымасьці да арганізацыі новых нацсаветаў.

Будзін.

# Практычныя задачы фінансава-падатковых камісій пры сельсаветах.

У ліку сталых камісій, якія, паводле пастановы ЦВК і СНК БССР 23-X-25 г., павінны існаваць пры сельсаветах пад старшынствам аднаго з сяброў сельсавету, ёсьць і фінансава-падатковыя камісіі.

Аднак, не баючыся памыліцца, можна сказаць, што ў большасьці выпадкаў гэтыя камісіі працуюць нездавальняюча, а часам яны і зусім бязьдзейнічаюць.

Між тым поле дзейнасьці для іх шырокае. І праца іх можа быць вельмі і вельмі карыснай.

Якія ж канкрэтныя задачы стаяць перад фінансава-падатковымі камісіямі? Якую працу яны павінны рабіць?

Пачнем з адзінага сельгаспадарчага падатку.

Вялікае значэньне пры правядзеньні гэтага падатку мае яго папулярызацыя, растлумачваньне насельніцтву падстаў, на якіх пабудаваны падатак, дэталяў яго пабудовы і правядзеньня, асабліва ў галіне такіх пытаньняў, як, напрыклад, дача льгот ці вылічэньне падатку і г. д. Усё гэта—справа фінансава-падатковай камісіі, якая павінна абмеркаваць, як, у залежнасьці ад мясцовых умоў, найлепшым чынам зьдзейсьніць гэта і затым правесьці ўсю паказаную працу.

Але гэтым роля фінансава-падатковай камісіі пры правядзеньні адзінага сельгаспадатку не абмяжоўваецца. Абкладаемы даход, як вядома, вызначаецца па нормах даходнасьці, якія ўстанаўляюцца на дзесяціну пахаты або пасеву, сенажаці, галаву жывёлы і г. д. Гэтыя нормы могуць быць розныя не толькі для паасобных раёнаў, але і для паасобных селішчаў. І вось—падрыхтоўка адпаведнага матар'ялу, вытлумачэньне пытаньня аб тым, у якіх селішчах, якія належаць да гэтага сельсавету, даход ад дзесяціны пасеву, сенажаці, галавы буйнае ці дробнае жывёлы большы, у якіх меншы, вызначыць у гэтым разе суадносіны паміж паасобнымі селішчамі, а па магчымасьці і самую даходнасьць у лічбах, зьяўляецца, бязумоўна, задачай, якую павінна ўзяць на сябе фінансава-падатковая камісія.

Апрача памянёных момантаў, якія, на нашу думку, зьяўляюцца галоўнейшымі ў працы фінансава-падатковай камісіі, у частцы адзінага сельгаспадатку, гэта камісія, у асобе яе сяброў, можа садзейнічаць сельсавету і ў іншых момантах яго працы, зьвязанай з сельгаспадаткам. напрыклад, дача заключэньняў па скаргах, напамінаньне насельніцтву аб своечасовай выплаце падатку паасобнымі селішчамі і г. д.; асабліва карыснай можа быць у гэтых адносінах праца, зьвязаная з дачай сельсаветам заключэньняў па скаргах: сябры камісіі могуць рабіць пасьледваньні, зьбіраць патрэбныя весткі і такім чынам устанаўляць, ці правільна было зроблена першапачатковае абкладаньне скаржніка, ці, можа, былі дапушчаны памылкі.

Надзвычайна важнай зьяўляецца роля фінансава-падатковых камісій пры правядзеньні самаабкладаньня насельніцтва. Яны, перш за ўсё, павінны падрыхтаваць грамадзкую думку і настрой сялянства ў інтарэсах самаабкладаньня, інфармаваць яго аб законах і распараджэньнях адносна самаабкладаньня, даваць тлумачэньні паасобным грамадзянам. Апроч таго, імі можа быць зроблена вывучэньне пытаньня аб тым, якія культурна-гаспадарчыя патрэбы з ліку тых, што могуць быць пакрыты з сродкаў, сабраных шляхам самаабкладаньня, зьяўляюцца безадкладнымі, якія з іх павінны быць здаволены ў першую, другую чаргу і г. д. Пры гэтым мэтазгодна, каб плян здавальненьня паказаных патрэб быў складзен на некалькі гадоў. Папярэд-

# Задачы санітарных камісій пры сельсаветах.

Сельская санітарная камісія ёсьць арганізацыйная форма ўдзелу працоўнага сялянства ў аздаравіцельных мерапрыёмствах, праводзімых савецкай мэдыцынай на вёсцы. Гэта ёсьць той перадавы сьвядомы вясковы актыў, праз які вучастковы альбо санітарны доктар праводзіць сваю аздаравіцельную працу ў сялянскай гушчы. Працуючы пры непасрэдным удзеле доктара, сельская санітарная камісія не зьяўляецца выканаўчым органам пры апошнім, гэткае становішча магло-б зьнішчыць самую ідэю камісіі, як адной з форм удзелу сялянства ў будаўніцтве савецкае аховы здароўя; яна праводзіць у жыцьцё свае ўласныя пастановы як грамадзкая арганізацыя, абраная і апранутая давер'ем сялянства, роля-ж доктара, як сьвядомае асобы, тут зводзіцца да дапамогі гэтай арганізацыі, маючае магчымасьць сваімі ведамі і практычнымі спробамі садзейнічаць правільнаму падыходу ў прыняцьці ёю сваіх пастаноў, падтрымліваць і штырхаць пачын і самадзейнасьць камісіі. Наша роля мэдычных працаўнікоў на вёсцы ў галіне прафіляктычнае працы ў значнай ступені павінна складацца ў стварэньні такіх вясковых ячэек аховы здароўя і ў выхоўваньні ў іх правільнага разуменьня сваёй задачы. Апошняя ў аснаўным зводзіцца да таго, каб уцягнуць неарганізаваную сялянскую масу да правядзеньня ў жыцьцё ў сваім быце тых здаровых навыкаў і санітарных правілаў, якія павінны аздаравіць нашу вёску, забясьпечыць яе ад спусташаючых пошасьцяў заразьлівых хвароб і даць бадзёрае духам і здаровае целам пакаленьне, якому прадстаіць закончыць вялікую справу сацыялізму. Санітарная асьвета складае першую паважную частку ў працы камісіі. Тут у першую чаргу яна павінна наладзіць сувязь з культкамісіяй пры сельскім савеце, якая аб'яднае ўсе мясцовыя культурныя сілы. Трэба ведаць, што санітарная асьвета не складаецца з адных толькі лекцый і іншых заняткаў на мэдычную тэму,—да аховы здароўя маюць бліжэйшыя адносіны пытаньні сельскагаспадарчыя, тэхнічныя і многія іншыя. Санітарна-асьветная праца павінна праводзіцца плянава, дзеля чаго камісія супольна з доктарам, да якога прымацавана адпаведная вёска, выпрацоўвае плян сваёй дзейнасьці, які пагаджаецца з плянам культкамісіі сельсавету. Далей санітарная камісія павінна паклапаціцца наконт памяшканьня для заняткаў, апавяшчаць насельніцтва аб тэрміне і тэме заняткаў, сачыць за наведваньнем насельніцтва. Камісіі патрэбна ўважна аднесьціся да пляну працы, абхапіўшы ім найбольш жыцьцёвыя практычныя пытаньні і не перагружаць яго колькасьцю заданьняў. Правільная пастаноўка санітарна-асьветнае працы складае аснову ўсей дзейнасьці камісіі, яна дасьць адказ на ўсе пытаньні працы і быту вёскі і пакажа шляхі да новага здаровага жыцьця. Яна дасьць самой камісіі праграму яе штодзённае працы. Адначасова камісія павінна памятаваць аб ячэйцы Чырвонага Крыжу, калі такая маецца на вёсцы, гэта родная сястра яе, з якой яна павінна ісьці нага ў нагу. Шмат пытаньняў санітарнае асьветы і іншых старонак дзейнасьці камісіі магчыма аб'яднаць з ёю і атрымаць больш рэальныя дасягненьні, напрыклад, арганізацыя санітарнага кутка, гуртка першае дапамогі і і інш. Мэтаю санітарнае асьветы наогул зьяўляецца ўкараненьне ў масу сялянства звычайных правілаў і карысных вед аб здаровым памяшканьні, правільным карменьні, гігіенічным парадку жыцьця, абараненьні ад пошасьцяў і г. д., а задача камісіі—дапамагчы правядзеньню гэтых ведаў у жыцьцё. Асабліва шчыры ўдзел павінна прымаць камісія ў барацьбе з востра заразьлівымі хваробамі. Тут яе задача ў першую чаргу складаецца ў асьведаміцельнай працы. Камісія сочыць, хто захварэў на вёсцы і якою хваробаю. Першае выканаць ня цяжка, другое-ж патрабуе вызава ўрача і як магчыма шпарчэй, бо пошасьць—як пажар, які трэба тушыць спачатку. Камісіі трэба паклапаціцца аб прыезьдзе доктара і абгаварыць з ім усе неабходныя мерапрыёмствы. Доктар, вызваны да хворага, хоць-бы і не па пачыну камісіі, не павінен мінаваць апошнюю. Паміж урачом і камісіяй павінна быць самая цесная ўвязка. Чым больш доктар зьбліжаецца з сялянскай масай праз камісію, тым больш у разуменьні сялянства будзе ўкарэньвацца і выхоўвацца пачуцьцё неабходнасьці і патрэбы сумеснае працы. Якія мерапрыёмствы патрэбна праводзіць у выпадку заразьлівае хваробы, гэта будзе залежыць ад сутнасьці хваробы і ад мясцовых умоў, але-ж задача камісіі —правесьці ў жыцьцё намечаныя з доктарам мерапрыёмствы. Паміж іншым, заўсёды будзе ўзьнімацца пытаньне аб ізаляцыі хворага. Лепш усяго яго зьмясьціць у б-цы і ў памяшканьні ўтварыць дэзынфэкцыю, але-ж не заўсёды гэта магчыма ажыцьцявіць. У такім выпадку трэба спрабаваць правесьці так званую «грамадзкую ізаляцыю», якая складаецца ў тым, што на вёсцы аслабанаецца адзін, альбо некалькі памяшканьняў, куды зьмяшчаюцца ўсе аднародныя хворыя, грамадзянства выхучае да іх абслугоўваючы персанал, скарыстоўваючы для гэтага ў першую чаргу тых асоб, якія прайшлі гурток першае дапамогі, мэдычная-ж дапамога атрымліваецца з бліжэйшага пункту, з якога магчыма прыкамандыраваць працаўніка для барацьбы з пошасьцю. У гэтым магчыма атрымаць і матар'яльную дапамогу ад таварыства Чырвонага Крыжу і іншых арганізацый. Утварэньне такое грамадзкае ізаляцыі магчыма правесьці ня толькі з хворымі, але і з тымі асобамі, якія былі з імі ў сумесным жыцьці на тэрмін скрытага пэрыяду хваробы. Дзеля абароны здаровых ад зьявіўшайся пошасьці, звычайна ўтвараюцца масавыя прышчэпкі, тут задача камісіі—дапамагчы правядзеньню прышчэпкавай кампаніі шляхам тлумачэньня сялянству вялізнай значнасьці і карысьці яе.

У справе сялянскага будаўніцтва задача камісіі—сачыць, каб у ім праводзілася ідэя прафіляктыкі, гэта значыць—каб у пабудовах было зьнішчана ўсё тое, што можа садзейнічаць захварэньню, а дабіцца гэтага магчыма толькі зьвярнуўшы на гэту справу ўвагу доктара, які дасьць каштоўныя паказаньні ў выбару здаровага мейсца для памяшканьня, студні, у пляваваньні і г. далей. Асаблівую ўвагу павінна зьвярнуць камісія на прапаганду пабудовы лазьняў, пабудовы скрынак для сьмецьця адхожых месц, пасадкі дрэў, асушкі вуліц і двароў і іншых прыкладаў вясковага ўпарадкаваньня.

Правядзеньне ў жыцьцё выдаваемых вышэйшымі органамі абавязковых пастаноў па аздараўленьню насельніцтва таксама ўваходзіць у задачу камісій.

У цэлым шэрагу вёсак яшчэ дагэтуль, карыстаючыся сялянскай цемрай, існуюць дамарослыя лекары—шаптуны, якія абвяшчаюць, што могуць дапамагчы ад хваробы. Даверлівыя сяляне зварочваюцца да іх, аплачваюць іх, але ніякай дапамогі не атрымліваюць і толькі запушчаюць хваробу. Санітарная камісія павінна весьці барацьбу з гэткімі самазванымі дактарамі і перадаваць іх праз сельскі савет да судовай адказнасьці, бо правы лячэбнае працы ў Беларусі маюць толькі асобы, скончыўшыя адпаведныя вучэбныя установы.

Усім вядома, якую шкоду ўтвараюць на вёсцы шалёныя сабакі, кошкі, ваўкі і г. д. Найчасьцей шаленствам захворваюць бяздомныя сабакі. З імі

санітарная камісія павінна арганізаваць барацьбу шляхам зьнішчэньня этакіх сабак і растлумачваць сялянству аб неабходнасьці трымаць сваіх сабак на прывязі.

Санітарная камісія павінна таксама весьці барацьбу з пошасьцямі сярод жывёлы. У гэтым напрамку яна можа дабіцца, каб было адведзена ізаляванае месца для пахаваньня здохлае жывёлы, чаго яшчэ многія вёскі ня маюць і падаль закопваюць на гародах, а то і зусім шмат часу ляжыць незакапанай.

Сельская санітарная камісія ў сваёй працы сустрэне патрэбу ў матар'яльных сродках. З выданьнем закону аб самаабкладаньні, гэта задача можа быць выканана камісіяй; апошняя павінна мець гэта на ўвазе і імкнуцца скласьці грашовы фонд, што значна палепшыць умовы яе дзейнасьці. У сваей працы камісія робіць справаздачу перад сельскім саветам альбо вучастковым санітарным саветам, калі гэтакі маецца.

Вось галоўныя задачы санітарных камісій пры сельсаветах. Толькі тады праца іх будзе прадукцыйнай, калі ў склад іх увойдуць асобы, самаахвотна жадаючыя прымаць удзел у грамадзкай дзейнасьці і бескарысна аддадуць свае сілы і здольнасьці ідэі аздараўленьня вёскі.

Санітарны Інспэктар Мельнікаў.

---

# Аб масавай рабоце Бабруйскага гарадзкога савету.

Каб ахарактарызаваць масавую працу Бабруйскага гарадзкога савету трэба караценька заўважыць, што Бабруйскаму гарсавету прышлося апошні год перажываць шэраг рэарганізацый, у сувязі з перадачай усіх галін працы па гораду ад акруговых установ непасрэдна гарсавету.

У сучасны момант Бабруйскі гарсавет мае значны апарат па абслугоўваньню насельніцтва, як—гаркамгас, інспэктура аховы здароўя, нарасьветы, шэраг гаспадарчых прадпрыёмстваў і ўстаноў, падпарадкаваных яму.

Гарадзкі савет зьяўляецца цяпер сапраўдным кіраўніком і гаспадаром гарадзкой работы і жыцьця.

Новыя ўмовы працы і пашырэньне правоў, згодна новага Палажэньня аб гарадзкіх саветах, наблізіла гарсавет да насельніцтва і дало лепшую магчымасьць гарсавету і яго прэзыдыуму працаваць над галоўнай задачай «ажыўленьне савету».

### Як выконвалася пастанова ўраду БССР аб масавай рабоце савету.

Уся работа прэзыдыуму гарсавету і пленуму праводзілася на грунце работы сэкцый, якіх маецца 7: РСІ, фінансава-адміністрацыйная, камунальна-жыльлёвая, сельска-гаспадарчая, кааперацыйна-гандлёвая, аховы здароўя і нарасьветы. Усяго ў іх членаў 311 чал. Дэпутаты разьмяркованы па сэкцыях паводле свайго жаданьня.

За правіла было прынята, што ніводнага пытаньня той ці іншай галіны працы прэзыдыум не абгаварваў без папярэдняй прапрацоўкі сэкцыяй і амаль што ніводнага пытаньня сэкцыі прэзыдыум не пакідаў без увагі.

Галоўныя пытаньні сэкцый уваходзяць у плян прэзыдыуму.

Пленумы сэкцый зьбіраліся рэгулярна 1 раз у месяц і бюро 1 раз у 2 тыдні, што трэба лічыць у поўнай меры здавальняючым.

Наведваньне дэпутатамі пасяджэньняў—85-90 проц. (62 проц. у час знаходжаньня 50 проц. складу савету ў лягерах на працягу 5-ці м-цаў).

За апошні год сэкцыі правялі шмат абглядаў, сваім уплывам абхапілі ўсе галіны працы гарадзкога жыцьця—заслухоўвалі даклады ўстаноў і прадпрыемстваў—разьбіралі заявы, скаргі. Прывяду некалькі прыкладаў па асобных сэкцыях:

### Сэкцыя РСІ

Найбольш працаздольная і жыцьцёвая сэкцыі. Пры абглядзе Бабруйскай разьніцы выявіла там значную безгаспадарчасьць. Загадчык разьніцы зьнят з працы.

Абгледжаны найбольш буйныя працкалектывы.

Разабрана больш 200 скарг. Па больш буйных прадпрыёмствах і ўстановах устаноўлена 30-35 скрынак для скарг і практычных прапаноў, якія сыстэматычна правяраюцца і атрымліваюць належны ход. Недахоп у гэтых скрынках яшчэ той, што некаторыя прадпрыёмствы і ўстановы навокал іх не вядуць сыстэматычнай работы. Мала яшчэ прапаноў, а больш скарг.

Сваей работай сэкцыя заваявала аўтарытэт сярод працоўных гораду, і часта рабочыя самі прыходзяць і запрашаюць сэкцыю для абгляду іх прадпрыёмства.

### Каап.-гандлёвая сэкцыя.

Сэкцыя правяла праверку сацыяльнага складу пайшчыкаў ЦРК і «Чырвоны Араты», дзе выяўлена больш 250 пайшчыкаў—пазбаўленых выбарчых правоў, якія выключаны з кааперацыі.

Дэпутаты савету прымацаваны да асобных крам і заўважаныя недахопы выносяць на абгазарэньне сэкцыі.

Сэкцыя працавала над пытаньнем палепшаньня якасьці печанага хлеба і па яе прапанове прэзыдыум рашыў аб'яднаць 2 буйныя хлебапякарні. Абгледжан шэраг кааперацыйных установ, сэкцыя займалася пытаньнямі чаргі ў крамах ЦРК, грамадзкага харчаваньня. Яе асаблівым дасягненьнем трэба лічыць, што значная ўвага звярачвалася асобным т. зв. дробязям кааперацыйнай працы.

### Сэкцыя нарасьветы.

Сэкцыя нарасьветы ў 1927-28 навучальным годзе зрабіла масавы абгляд платнасьці па сямігодках і ва многіх школах знайшла скрыўленьне клясавай лініі — калі дзеці папоў аслабаняліся ад платы, а дзеці рабочых абкладаліся платаю. Загадчык сямігодкі зьнят з працы, некаторым пастаўлена на від. Сталай працай сэкцыі рэарганізавана і аздароўлена дзіцячая калёнія, польская сямігодка.

Сэкцыя нарасьветы прыцягвае да працы настаўніцтва і сваёй работай заваявала сярод іх аўтарытэт.

Сэкцыя аховы здароўя прыцягвае да працы дактароў, што, бязумоўна, паляпшае якасьць аглядаў і вывучэньня работ па лініі аховы здароўя.

Сэкцыя РСІ прыцягвае да абглядаў бухгальтароў.

Найбольш жыцьцёвымі за апошні год былі сэкцыі РСІ, нарасьветы, аховы здароўя, каап.-гандл., фін.-адміністрац.—слабей працавала камунальна-жыл. і сельска - гаспадарчая сэкцыі, што, бязумоўна, зьяўляецца значным недахопам у той час, калі камунальна-жыльлёвая сэкцыя зьяўляецца асноўной у гарсавеце.

Ёсьць у рабоце сэкцый і значныя недахопы, галоўныя з іх: недастатковая праверка сваіх дырэктыў, слабае заслухоўваньне дэпутатаў аб сваёй дзейнасьці, часткова павярхоўныя ня зусім добраякасныя абгляды, ня ўсе дэпутаты былі ўцягнуты ў работу. Мала сэкцый было па прадпрыёмствах.

Прымацаваныя да ўстаноў дэпутаты слаба інструктаваліся—мала было

адкліканьняў дэпутатаў—усяго 14 чал. І то не сыстэматычна, а ад часу да часу.

Усё-ж трэба сказаць, што работа сэкцый за гэты пэрыяд значна ажывілася і вылучыла шмат актывістых з рабочых і вайскова-служачых.

## Прымацаваны актыў.

У маі месяцы прэзыдыум гарадзкога савету сумесна з АПБ і саюзамі праведзена работа па прымацаваньню рабочага актыву для працы ў сэкцыях савету ў колькасьці—68 чал. прымацованых дэлегатак было 57 і камсамольцаў—42 чал., усяго 167 чал.

У выніку іх паўгадавой працы можна зрабіць такі вывад: частка іх проц. 50 прымае добры ўдзел у працы сэкцый—удзельнічаюць у пленумах—вызначаны ў камісіі — выпаўняюць асобныя заданьні.

Асабліва апраўдалі сябе дэлегаткі і пасьля перавыбараў дэлегацкіх сходаў было пакінута 20 дэлегатак папярэдняга скліканьня і прымацавана яшчэ 70.

Значным недахопам у працы прымацаваных зьяўляецца тое, што шмат хто не падлічыў сваёй нагрузкі, вучобы, якая іх адрывае ад працы ў савеце, і другі больш важны момант—няма яшчэ сталага кантролю і кіраваньня іх працай з боку прафарганізацый, партыйных і камсамольскіх ячэек.

## Квартальныя камітэты.

Апрача паказанага актыву рабоце гарсавету дапамагае яшчэ інстытут квартальна-хутарскіх камітэтаў, які налічвае 320 чал., з іх: рабочых—120, служачых — 69, саматужнікаў —28, сялян, хатніх гаспадынь і інш. —105.

Грунтоўная праца кварткомаў—дапамога ў тэхнічным абслугоўваньні насельніцтва;

тэхнічная сувязь гарсавету з насельніцтвам (скліканьне сходаў, вызавы);

дапамога розным установам, асабліва міліцыі па часьці санітарнага становішча гораду, пожарнай ахове, дапамога і грашова-падатковым органам.

Кіруе кварткомамі фінансава-адміністрацыйная сэкцыя.

Апрача працы сэкцыі непасрэдна прэзыдумам было вызначана 100 членаў гарсавету і прымацована для пераучоту 30 проц. жыл. плошчы і 100 для агляда заяў на кватэры.

## Яшчэ аб зьвязаньні гарсавету з масамі праз справаздачнасьць.

Справаздачы дэпутатаў былі праведзены ў 1928 г. сярод членаў саюзу па 31 вучастку, дзе далі справаздачу 43 дэпутаты, у вайсковых частках—50, сярод неарганізаванага насельніцтва на 9 сходах—18 дэпутатаў; усяго рабіла справаздачу 111 чал.

Значны недахоп па часьці справаздачнасьці той, што мала ўцягнута ў яе дэпутатаў і рабілася яна не сыстэматычна, а мела характар кампаніі.

Прэзыдыум гарсавету ў сакавіку месяцы адчытаўся ва ўсіх частках гарнізону, на якіх прысутнічалі ўсе чырвонаармейцы і кам. склад, таксама ў больш буйных саюзах.

На справаздачных сходах было высьветлена шмат практычных прапаноў, якія лягі ў аснову далейшай працы сэкцый.

Тут трэба сказаць тое, што часта ўжо падкрэсьлівалася многімі: аўтарытэтнасьць дэпутата недастатковая, ён яшчэ не адчуваецца як сапраўдны прадстаўнік савецкай улады, на што трэба будзе зьвярнуць увагу пры перавыбарчай кампаніі.

Пытаньні самакрытыкі хоць і значна зварушылі актыўнасьць дэпутатаў, але-ж усё яшчэ недастаткова.

## Пленум і прэзыдыум.

За 1928 г. прэзыдыум правёў 5 пасяджэньняў па прадпрыёмствах і рабочых клюбах: на «Чырвоным Харчавіку», махорачнай фабрыцы, фанэрным заводзе, у клюбе будаўнікоў, сумесна з пайшчыкамі ЖАКТ'аў, на гэтых пасяджэньнях рабочых было 460—500 чалавек.

Характэрна адзначыць, што калі было пасяджэньне на фанэрным заводзе, рабочыя 2-й зьмены парашылі прысутнічаць усім на пасяджэньні і адпрацаваць пасьля гэтыя гадзіны.

На кожным пасяджэньні прэзыдыуму прысутнічае апрача членаў прэзыдыуму 25 чал.

Прэзыдыум па 2 разы заслухоўваў даклады сэкцый аб іх працы і даваў належныя дырэктывы.

Пленумаў гарсавету адбылося за год 14, з іх: 2 урачыстых, з якіх на адным урачыстым былі заслуханы 2 практычных даклады аб ваенізацыі ў горадзе. Якасьць пытаньняў вырашаемых пленумам зусім адрозьніваецца ад пытаньняў мінулых гадоў. Вось пералік пытаньняў, абгавораных на пленуме:

1. Даклад ЦРК, 2) справаздача прэзыдыуму (2 разы), 3) аб ажыўленьні саветаў, 4) аб пазыках, 5) аб выкавыкананьні бюджэту, 6) аб справаздачнай кампаніі, 7) даклад камунальна-жыл. сэкцыі, 8) пытаньні гасьцініц, 9) аб хлебным рынку, 10) сыстэма Нарасьветы, 11) вынікі РСІ па абгляду гарсавету, 12) аб вадаправодзе, 13, даклад АВК, 14) бюджэт на 1928-29 г. і шэраг дробных пытаньняў.

Вывад ясны—пленум займаўся найважнейшымі жыцьцёвымі пытаньнямі гарадзкой работы і жыцьця.

Вось караценька аб масавай рабоце савету.

Цяпер усе сэкцыі і прэзыдыум рыхтуюцца да справаздачна-перавыбарчай кампаніі—складзены справаздачы і абгавораны на пленумах сэкцый. Складзен калялдарны плян справаздачнай кампаніі—з 1-XII 28 г. будуць адлічвацца ня толькі ўсе дэпутаты, але і прымацаваныя рабочыя, дэлегаткі і камсамольцы.

Справаздачна-перавыбарчая кампанія замацуе нашы дасягненьні пры разгортваньні шырокай самакрытыкі, выправіць нашы недахопы, будзе садзейнічаць яшчэ большаму ажыўленьню работы і падняцьцю аўтарытэту гарсавету у цэлым і кожнага дэпутату ў паасобку.

Старшыня Бабруйскага
гарсавету **М. ЭСТРЫН.**

---

## Маленькі вопыт.

У надыходзячую кампанію перавыбараў сельсаветаў, як ніколі, трэба скарыстаць вопыт гэтых кампаній у мінулым.

Дырыктывы па правядзеньню гэтай кампаніі ЦВК Беларусі даны дастаткова.

На працягу апошніх пяці год савецкага будаўніцтва па Бярозкаўскаму раёну маецца наступны маленькі вопыт: менш здавальняюча працавалі тыя прэзыдыумы сельсавету, якія вылучаліся пераважна на падставе ініцыяцівы вышэйстаячых Выканкомаў. Так на працягу апошніх шасьці месяцаў Хоцімскаму РВК прышлося замяняць два разы старшыню сельсавету. Заўважвалася, што праца с.-с. на працягу апошняга году па гэтай прычыне, была невдавальняючай. Найлепш працавалі тыя прэзыдыумы сельсавету, якія вылучаліся ў выніку сталай і ўсебаковай абгаворанасьці і ўзгодненасьці паміж РВК і мясцовым Бярозкаўскім савецкім актывам, у тым ліку з усімі сябрамі Бярозкаўскага сельсавету.

Сакратар
Хоцімскай Раённай
Рэвізыйнай Камісіі
і Член Бярозкаўскага
сельсавету **Д. Юдзенкоў.**

